Восьмы нумар 2002 ГОД

*О, край родны, край прыгожы!..*
Якуб КОЛАС

# ВЯТРАК

БЮЛЕТЭНЬ ТВОРЧАГА МАЛАДЗЁЖНАГА АБ`ЯДНАННЯ

**Шаноўныя землякі! Сёння выйшаў святочны нумар нашага бюлетэню. Ён прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Янкі КУПАЛЫ. І як заўсёды вашы творы: вершы, апавяданні, артыкулы, сяброўскія лісты, малюнкі, ўпрыгожылі бюлетэнь. І нам вельмі прыемна, што ў гэты раз лістоў у рэдакцыю прыйшло болей. Таму хутчэй уладкоўвайцеся на добрае месца і пачынайце чытаць «ВЯТРАК», а калі нешта падасца незразумелым – пішыце. Пастараемся адказаць на ўсе вашы пытанні.**



## ПАДЗЯКА

**За дапамогу «Ветраку» у выразцы закладак, выказваем вялікую падзяку *Наумцу Арцёму, Харута Неждане, Нагар Святлане, Арцюху Івану, Уладзіміру Стоме.***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

***Так як да нашага бюлетэня далучылася многа новых чытачоў, то многія з іх нават не ведаюць для чаго «ВЯТРАК» выдаецца. Таму я зараз пра гэта коратка распавяду.***

*Пачаў бюлетэнь выходзіць яшчэ ў 1999 годзе. Тады ў ім змяшчаліся пераважна навіны ды творы юных талентаў. Цяпер «ВЯТРАК» накіраваны на больш шырокае кола грамадства. У ім пачалі друкавацца рэкламы, рубрыкі на розныя тэмы, сяброўскія лісты, анекдоты. Значыць карыстацца папулярнасцю бюлетэнь павінен ў асноўным у моладзі. Таму мы і стараемся прыцягнуць яе да нашага бюлетэня шматлікімі цікавымі і змястоўнымі матэрыяламі.*

**Алег ШЭЛЕСТАЎ**

наступны нумар будзе прысвечаны 120-ым угодкам з дня нараджэння якуба коласа

**2002 ГОД**
**ЧЭРВЕНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Пт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

**ПРЫЕМНАГА ВАМ ЧЫТАННЯ!**

## АНЕКДОТЫ

На экзамене студэнт не ведае не адзін адказ на пытанне білета. Раззлаваўшыся прафесар пачынае крычаць:

– Ды ён жа асёл! (Звяртаючыся да аднаго з асістэнтаў) Прынясіце мне, калі ласка, ахапку сена!

Студэнт:

– А мне кубачак кавы, калі ласка.

***

– Алё, хто гэта ў тэлефона?

– Біл Гейст.

– О, не пазнаў, багатым будзеш.

***

– Ты чаму такі сумны?

– Ды так, адзін мужык грошы павінен.

– А ў цябе што, каардынат яго няма?

– Каардынаты та ёсць... А вось ракеты няма!

***

Шварцэнэгер ляжыць з любоўніцай. Званок у дзверы. Яна:

– Муж!!!

– Дзе тут у цябе запасны выхад?

– Няма.

– Тады дзе ты хочаш, каб ён у цябе быў?

## СТУДЭНЦКАЕ ЖЫЦЦЁ

Як і ў многіх іншых месцах, у нас у інтэрнаце часта адключаюць ваду, а каб яе набраць (несці даводзіцца па 9-10 літраў на дзень) прыходзіцца вельмі далёка ісці. Пасля гэтай паходкі нейкі час не тое, што нешта рабіць, але і ўрокі пісаць не хочацца. Адна думка – хутчэй бы адпачыць. А хацелася бы яшчэ ўдосыць пачытаць, прайсціся пагуляць, сустрэцца з сябрамі з іншых класаў.

Алена ЛАСОЎСКАЯ

## КАНІКУЛЫ

Для многіх прыйшлі доўгачаканыя канікулы. А вось для выпускнікоў 9-х і 11-х класаў паўстала пытане: як добра здаць экзамены і куды-небудзь паступіць? Таму наша рэдакцыя прапануе вам адрас *ЦЭНТРА ІНФАРМАЦЫІ АБ ПРАФЕСІЯХ*. Там вам дапамогуць у выбары прафесіі, а таксама раскажуць аб тых спецыяльнасцях, якіх у нашай дзяржаве болей, чым трэба (юрысты, бухгалтары) альбо наадварот – вакансіях, якіх не хапае (будаўнік, муляр, кіроўца аўтобуса, тралейбуса).

Ну, а для тых, хто ўжо выбраў свой будучы шлях – мы жадаем добрага адпачынку.

## КРЫЖАВАНКА

**16:** *6001421358970311;* **14:** *96766480107714;*
**13:** *7914037081421;* *3123940617780;*
**12:** *340196731278;* **11:** *40272273169;*
**10:** *9683220107;* **9:** *668094835;*
**8:** *64209850;* **7:** *9708601;*
**6:** *462901;* **5:** *36724;*
**4:** *3007;* **3:** *940.*



***Падстаўце правільныя лікі ў клеткі лічбавай крыжаванкі.***

# ЮБІЛЕЙ



**ЯНКУ КУПАЛУ — 120 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ**

Беларускаму песняру, Янку купалу, 7 ліпеня спауняецца 120 год з дня нараджэння. Нягледзячы на тое, што ужо многа год яго няма з намі, творы Купалы вывучаюцца у школе, з задавальненнем чытаюцца моладдзю і дарослымі. Усім вядомы яго слаўныя творы ПАУЛІНКА, КУРГАН, БАНДАРОУНА.

--- *Да юбілею* ---

## Янка Купала і яго паплечнік Андрэй Пракапчук

У канцы 20-х гадоў жыццё ў Беларусі ішло сваёй каляінай са сваімі радасцямі і засмучэннямі. Такой радасцю і разам з тым засмучэннем было для доктара медыцынскіх навук са Слонімшчыны (нарадзіўся ў вёсцы Чамяры) Андрэя Якаўлевіча Пракапчука (1896-1970) знаёмства з Янкам Купалам. Засмучэннем таму, што яго блізкае знаёмства з Купалам адбылося з прычыны хваробы паэта.

Аднойчы Андрэю Якаўлевічу пазванілі ў клініку (у гэты час ён жыў і працаваў у Мінску) і паведамілі, што тэрмінова патрэбна яго кансультацыя: захварэў Янка Купала, ёсць падазрэнне на дэрматыт, бо трэці дзень паэт скардзіцца на тое, што ў яго баліць скура на твары, пячэ, ён не можа да яе дакрануцца. І тэмпература падскочыла — 38,9...

Некалькі дзён Пракапчук літаральна не адыходзіў ад паэта, і нарэшце лячэнне дало свае вынікі: Янка Купала паправіўся, павесялеў. На сэрцы ў доктара адлягло...

З таго часу Андрэй Якаўлевіч даволі часта бываў у Івана Дамінікавіча і любіў там бываць, бо ў доме ў яго заўсёды было людна, там збіралася літаратурная моладзь, гарачая, цікавая, разумная. І з Якубам Коласам ён пазнаёміўся ў Купалы, у яго гасцінным доме, дзе такой шчырай і ветлівай гаспадыняй была цётка Уладзя, жонка песняра.

Збярогся да сёняшняга дня чацвёрты том збору твораў Янкі Купалы, выдадзены ў 1940 годзе. На ім роўны надпіс: *«Дарагому прафесару, акадэміку А. Я. Пракапчуку на добрую памяць. Шчыра аддадзены Янка Купала. 21.IV.1940г., г.Мінск».* (Літаратурны музей Янкі Купалы, ф.1, воп.3, адз. зах.8).

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Алег ШЭЛЕСТАЎ
### Абаронім наш край

*Усіх адважных ваяроў*
*Клічуць на вайну ізноў:*
*«Трэба край абараняць,*
*Ды чужынцаў адганяць»...*

*Вось атрад ужо ідзе,*
*Ды трубу з сабой нясе:*
*«Будзе вораг уцякаць,*
*Будзе наша труба граць».*

## Увага – плагіят!!!

**Шаноўныя творцы! Аказваецца ў мінулым нумары «ВЕТРАКА» быў надрукаваны верш-плагіят пад назвай «Трыялет».**

І даслала яго нам Вольга Людзвікоўская з горада Мінску, якая перапрацавала твор Сяргея Чыгрына па свойму. Выбачайце нас сапраўдны аўтар за тое, што дапусцілі яго да друку. Спадзяемся болей такога не здарыцца.

**Рэдкалегія**


**Хутка - грыбны сезон**

## Людміла КАВАЛЁВА
### Мой родны край

*Мой родны край валокнамі засланы*
*Ты дзіўны пах туману пакрысе,*
*Ты ціхі спеў касцёлаў і курганаў*
*І гэты спеў кранае сэрца мне.*

*Ты быццам звон празрыстае рачулкі*
*Нібы прамень сярод начы глухой,*
*Што асвятляе мне мой шлях да Бога*
*Мяне вядзе, кудысці за сабой.*

*Прыйдзе вайна аднекуль з-за балотаў*
*Зальем крывёю мы бялюткі снег...*
*Жыві народ! Жыві святая мова!*
*Жыві на Беларусі чалавек!*

## Літаратурны конкурс

**Сябры! Мы прапануем вам закончыць ужо пачатае апавяданне. Хто гэта зробіць сама арыгінальней і цікавей – будзе ўзнагароджаны.**

## Вольга КОНЧЫЦ
### Загадвай жаданне

*Знічка ўпала на зямлю–*
*Загадвай жаданне!*
*Каб не ведалі вайну,*
*Каб жыло каханне.*

*У свеце, дзе так цяжка жыць*
*Душу зберагаючы,*
*Людзям крыўды не чыніць,*
*Добрага жадаючы.*

*Цішыня маўчыць варожая*
*У халодным ранні!...*
*Знічка неба пакідае –*
*Загадай жаданне!..*

**Памер апавядання неабмежаваны.**

Разбудзіў мяне ранішні холад. Алесь і Міхась яшчэ спалі. Выйшаў з шалаша. Сонца ўжо бралася на ўсход і неба гарэла ружовым полымям. Учарашні касцёр, каля якога мы весяліліся пад гітару, яшчэ трохі дыміўся. Вырашыў прайсціся па ранішняй роснай траве...

*Юны праграміст*

## ПАСЬЯНС «свободная ячейка»

Так выглядае акно «свободной ячейки» (на фота), калі ў яе выйграць. А ці лёгкая гэта справа? Памойму – так, бо ў кожнай гульні ёсць свае недахопы.



***Сёння хочацца змясціць для вас некалькі карысных парад па працы кампутарам. Але калі яны вас зацікавілі, то вы можаце звярнуцца да нас у рэдакцыю і мы вам вышлем іх каля тысячы.***

**Парада 1.** Каб пазбегнуць аўтазапуску праграм пры ўстаўцы CD-ROM у дыскавод, трэба ў раздзеле рэестра (HKEY_LOCAL_MACHINE\SUSTEM\CurrentControlSet\Services\CDRom) прысвоіць DWORD-параметру Autorun значэнне 0 (1 – для ўключэння).

**Парада 2.** Калі перацягваць файлы ці папкі з націснутай правай кнопкай мышы, то калі вы яе адпусціце – убачыце меню, з якога зможаце выбраць: хочаце вы капіраваць файл, перамясціць ці стварыць ярлык.



Хто цяпер не ведае пра такі знакаміты рок-гурт, як N.R.M. і яго папулярныя спевы – «Тры чарапахі», «Жыхары падзямелля», «Песні пра каханне» ды іншыя творы. Таму атрымайце ў падарунак ад «ВЕТРАКА» гэты постэр.

Галоўны рэдактар – Алег Шэлестаў

**«ВЯТРАК» - бюлетэнь творчага маладзёжнага аб`яднання на Слонімшчыне**

*Наш адрас: 231825, в. Мірная, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл., Алегу Шэлеставу. Кантактныя тэлефоны: (01562) 9-11-04, кіраўнік аб`яднання – Алег Шэлестаў; (017) 277-57-75, намеснік – Кацярына Сырамалот.*

**Нумар падрыхтаваны і звёрстаны на настольным абсталяванні ТМА «Вятрак»**

## АНЕКДОТЫ

**– Ты ведаеш, чаму Коля карыстаецца такім поспехам у дзяўчат?**

**– Не.**

**– Калі ён сядае побач з якой-небудзь дзяўчынай у бары, то кажа ёй: «я на самай справе не такі высокі, проста я сяджу на сваім паперніку»... і дапамагае!**

***

**Скупы пакупнік ужо доўга стаіць у краме выбіраючы вешалку для вопраткі.**

**– А яшчэ танней няма?**

**– Ёсць – цвікі.**

*Смачна есці!*

**Сёння мы змесцім рэцэпт ад Літвінава Івана з горада Магілёва.**

**ВАРЭНІКІ**

**Трэба:** 1 яйка, 2 шклянкі мукі, палова шклянкі халоднай вады або малака, для пачынкі – любое варэнне.

**Рабіць:** змяшаць цеста, шклянкай выразаць кружочкі і пакласці на іх па лыжцы варэння. Зашчапіць бакі і апусціць варэнікі ў падсоленую кіпячую ваду або малако. Калі ўсплывуць – страва гатовая. Пасля можна пакласці на талерку і ўпрыгожыць смятанай.